ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №89 (4447) СУБОТА, 5 лістапада 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## Нацыянальная педагагічная рада: абмяркоўваем стратэгію рэфармавання адукацыйнай сістэмы

### ПРЫЯРЫТЭТ ЗАМАЦАВАЦЬ ЗАКОНАМ

Стратэгія рэфармавання адукацыйнай сістэмы, вынесеная Міністэрствам адукацыі і навукі на абмеркаванне педагагічнай грамадскасцю ("Настаўніцкая газета" за 26 кастрычніка), адлюстроўвае патрэбнасці грамадства, сённяшняга дня. Ухіленне перагрузкі вучняў за кошт павелічэння тэрміну навучання ў школе — пазітыўны працэс. Пераход да дыферэнцыявана-варыятыўнай сістэмы адукацыі стварае ўмовы для задавальнення запытаў кожнага вучня. Рэалізацыя стратэгіі патрабуе вырашэння ў першую чаргу матэрыяльна-забеспячэнскіх праблем. Што я маю на ўвазе?

Увядзенне дадатковага года навучання, а значыць, яшчэ адной паралелі ў школах, запатрабуе дадатковых класных пакояў. У Гомельскай вобласці, напрыклад, з 767 школ 231 працуе ў дзве змены, а дзве школы — у 3 змены.

Ажыццяўляць дыферэнцыяцыю на другой і трэцяй ступенях у поўнай меры магчыма таксама ва ўмовах адназменных заняткаў. Таму для практычнай рэалізацыі стратэгіі неабходна расшырыць сетку школ.

Пераход да сістэмы дыферэнцыяванага навучання вымагае стварэння новага навучальна-метадычнага комплексу. Сённяшні вопыт (амаль поўная адсутнасць навукова-метадычнага комплексу для профільнага навучання і паглыбленага вывучэння прадметаў) паказвае, што дэкларавацъ ідэю без папярэдняй падрыхтоўкі няма сэнсу. Трэба сур'ёзна прапрацаваць і праблему дыферэнцыяцыі ў сельскай малакамплектнай школе.

Для стварэння неабходных умоў па авалоданні як новым зместам адукацыі, так і метадамі работы ва ўмовах дыферэнцыяванага навучання неабходна рэфармаваць і рэарганізаваць сістэму падрыхтоўкі кадраў.

Думаю, што ў сістэме нацыянальнай адукацыі трэба вызначыць ролю дашкольнага выхавання і адукацыі. Неабгрунтавана скарочаны тэрміны знаходжання дзяцей у дашкольнай установе — з трох да шасці гадоў. Адмаўляцца ад груп малодшага дашкольнага ўзросту ў сённяшніх сацыяльных умовах, на мой погляд, не варта.

Галоўнае, што забяспечыць рэалізацыю стратэгічных напрамкаў рэформы — заканадаўчае замацаванне прыярытэтнага развіцця сістэмы адукацыі.

Міхаіл КОБРЫНСКІ,
начальнік упраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама, кандыдат педагагічных навук.

### ДАВАЙЦЕ СПЯШАЦЦА МАРУДНА

Матэрыял аб перспектыўных, стратэгічных напрамках школьнай рэформы, змешчаны ў "Настаўніцкай газеце" 26 кастрычніка, без сумнення, атрымае вялікі рэзананс у масах педагагічнай грамадскасці краіны. Закладзеныя ў ім накірункі і змест сваёй нацэленасцю і сэнсам закранулі мяне і як дырэктара школы, і як бацьку дваіх дзяцей.

Між тым, хочацца, думаю, дзеля карысці справы, выказаць і некаторыя свае, ды і не толькі, перасцярогі і сумненні, звярнуць увагу на "падводныя камяні", якія могуць перагароджваць плынь руху рэформаў.

Так, слабая сацыяльная абароненасць галоўных праваднікоў рэформы — настаўнікаў, кіраўнікоў педагагічных калектываў — скоўвае і прыгнятае ўсіх нас без выключэння, у большай ці меншай ступені. Пра гэта гаворана і перагаворана на ўсіх узроўнях многа. Адсюль і нявер'е значнай часткі настаўніцтва ва ўласныя сілы, што, несумненна, з'явіцца адной з перашкод на шляху рэформаў.

З другога боку, слабая прававая абарона нашай прафесійнай дзейнасці. Нягледзячы на мноства апублікаваных нарматыўных дакументаў, прыкладных палажэнняў і інструкцый, якія самі па сабе таксама маюць пэўныя недахопы, іх выкананне вельмі часта наогул ігнаруецца. Возьмем сённяшнюю перагрузку школы непрадугледжанай пісьмовай справаздачнасцю. Побач з тым, не толькі знікла, а наадварот, павялічваецца доля ненарміраванай і, натуральна, неаплочваемай працы педагогаў.

Адсутнасць на практыцы ў нашай нацыянальнай школе значнай часткі перададзеных быццам бы ёй правоў у прыняцці самастойных рашэнняў перашкаджае рэфармаванню таксама. Ці ж гэта не факт, што нават у сталіцы дзяржавы, Мінску, можна пералічыць па пальцах тыя школы, якія перайшлі на фінансава-гаспадарчую самастойнасць. А як з гэтым у абласных цэнтрах, і тым больш — у раённых? Напрыклад, у Гомелі такой школы няма ніводнай. І прычына не толькі і не столькі ў нежаданні браць на сябе адказнасць. Ці ж змогуць усе школы пераключыцца на навучанне ў 11 — 12 класах? Частка школ вымушана будзеператварыцца ў няпоўныя, што пацягне за сабой перагляд змяншэння нагрузкі настаўнікаў. А калі так, то ўстануць і непазбежныя праблемы пераводу іх з адной школы ў другую, скарачэння штатаў і інш. А гэта, скажам адназначна, пытанні занадта ўжо балючыя.

Асабіста мне больш за ўсё падабаецца прапанаваная схема такой канструкцыі агульнаадукацыйнай школы, як: 6+4+2. Аднак бярэ сумненне — ці будзе мець заўтрашняя школа магчымасць самастойнага выбару схемы навучання? Больш таго, насцярожвае і тое, што ў многіх школах заняткі вядуцца ў дзве змены, і тут жа прапануецца павелічэнне працягласці навучання на год, што і паслужыць прытоку дадатковай масы вучняў у наяўныя сцесненыя "вытворчыя" плошчы школ.

Я перакананы, што галоўная небяспека тоіцца ў залішняй спешцы. Рэформа — гэта працэс не рэвалюцыйны, а эвалюцыйны. Дык давайце падступацца да яе абдумана, на аснове сапраўды навуковага аналізу ўсіх спадарожных фактараў, і ў першую чаргу — падлічыўшы ўсе фінансавыя затраты, што дасць магчымасць яшчэ ў пачатку прадбачыць перспектыву.

Валерый ГЛАДКОЎ,
дырэктар школы №191 Мінска.

### ПРЫ АДНОЙ ВЕЛЬМІ ВАЖНАЙ УМОВЕ

Стратэгія рэфармавання адукацыйнай сістэмы, распрацаваная Міністэрствам адукацыі і навукі, накіравана, перш-наперш, на інтэграцыю ў еўрапейскую адукацыйную прастору, што, на мой погляд, вельмі важна і своечасова. Аб гэтым сведчыць і пераход агульнаадукацыйнай школы на 12-гадовы тэрмін навучання, стварэнне новых тыпаў прафесійна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і шматузроўневасці ў вышэйшай школе.

Асноўныя напрамкі рэфармавання адукацыі павінны ўлічваць рэаліі сучаснага грамадскага жыцця і ў адпаведнасці з гэтымі рэаліямі самі набываць новы змест і накіраванасць.

І тут сапраўды неабходна стварэнне новых адукацыйных тэхналогій, праграм навучання, іншых падручнікаў і дапаможнікаў.

Як вызначана ў стратэгіі школа першай ступені (6—10 гадоў, 1—4 класы) — засваенне асноў граматнасці, фарміраванне першасных уяўленняў аб навакольным свеце, авалоданне сродкамі і метадамі навучальнай дзейнасці. Я не бачу ў гэтым раздзеле ніводнага слова, што датычылася б экалагічнай адукацыі дзяцей. І гэта ў той час, калі на ўзроўні дзяржаўных органаў ідзе сур'ёзная распрацоўка праграмы па экалагічнай адукацыі ўсяго насельніцтва Беларусі.

У школе другой ступені (10—16 гадоў, 5—10 класы) на апошнім этапе (8—10 класы) мяркуецца паступова ўводзіць элементы дыферэнцыяцыі па змесце навучання, ствараць профільныя класы і класы з паглыбленым вывучэннем прадметаў. На мой погляд, менавіта сёння вельмі складана звычайнай агульнаадукацыйнай школе знайсці спецыялістаў - педагогаў для выкладання ў профільных класах. Эканамічная сітуацыя склалася такая, што больш паловы настаўнікаў - мужчын апошнім часам пакінулі школу і пайшлі працаваць у камерцыйныя структуры. Школа зараз не ў стане даць пэўную прафесію вучню.

На трэцяй ступені навучанне будзе дыферэнцыяваным, базавы кампанент зместу адукацыі не перавысіць 60 працэнтаў. Лічу, што лічба 60 працэнтаў базавага кампанента занадта вялікая для школы трэцяй ступені. Бо менавіта другая ступень навучання павінна даць асноўную базавую адукацыю.

Стратэгія рэфармавання адукацыйнай сістэмы мае права на ажыццяўленне пры адной, але, на мой погляд, вельмі важнай умове: неабходны перагляд бюджэтных сродкаў на 2—3 гады наперад, што выдзяляюцца на сістэму адукацыі. Калі яны, гэтыя сродкі, будуць хаця б вытрыманы ў межах, вызначаных Законам аб адукацыі.

Сяргей АДЗІНЦОЎ,
настаўнік гімназіі №199 Мінска.

### ВЫШЭЙ КРОКВЫ, ЦЕСЛЯРЫ!

Умовы жыцця змяніліся, з'явілася больш ступеняў свабоды, жыццё набыло жорсткасць і прагматызм — і, безумоўна, "савецкая" школа, якая добра адпавядала мінуламу планава-акрэсленаму спосабу існавання, зараз усё часцей "выстрэльвае ўхаластую".

Мы назіраем гэта на фактах, калі адразу пасля школы ці вучылішча, ці пасля ВНУ чалавек робіцца беспрацоўным. Або калі чалавек, скончыўшы школу і нават ВНУ, дзе на працягу многіх год вывучаў замежную мову — ідзе на трохмесячныя платныя курсы той жа мовы. Старая школа не ўлічвае канкрэтную рэальнасць, а працуе быццам з адставаннем "па фазе" ў часе.

Таму, безумоўна, рэформа патрэбна. Умовы жыцця — гэта асноўны заказчык нашай адукацыі. Але мы не павінны забывацца, што адукацыя не проста служка "рэалій", яна і фарміруе "рэаліі" — праз фармаванне чалавека. Не можа, скажам, не насцярожваць, калі гуманітарызацыя часам разумеецца амаль што толькі як навучанне замежным мовам. Адукацыя "на злобу дня" — гэта ўжо не адукацыя, гэта ўжо нешта іншае. "Вышэй кроквы, цесляры!" — заклікаў бы я словамі Сэлінджэра тых, хто прыступае да адказнай справы стварэння будынка нацыянальнай адукацыі.

Больш таго, мы бяром усё большую адказнасць за фарміраванне чалавека, пашыраем выхаваўча-адукацыйны кантроль за асобай да 18 год, да ўзросту не толькі яго псіхічнай, але і грамадскай сталасці. У сацыяльным плане — гэта зручна. Асабліва ў цяперашні крызісны перыяд. Але гэта — і новая роля адукацыі ў жыцці чалавека, больш высокая ступень адказнасці ўсёй адукацыйнай сістэмы, калі хочаце, яе новы грамадскі статус.

Прызнаюся шчыра, я ўжо баюся "мод" у сістэме адукацыі. Колькі іх было! Мяркую, што гаворка аб рэформе адукацыйнай сістэмы — не дзеля размоў, не дзеля гульні ў новую хвалю.

Жыццё пераконвае, што любыя пераўтварэнні ў адукацыйнай сістэме — нішто без матэрыяльнага забеспячэння, без сур'ёзных фінансавых укладанняў.

Калі новыя захады ў адукацыі змогуць вырашыць гэтыя праблемы, то будзе выдатна. Значыць за вырашэнне хаця б цяперашніх натуральных праблем забеспячэння школ палівам, падручнікамі, харчаваннем і своечасовай нармальнай зарплатай — нам тым больш баяцца не трэба. А гэта вельмі ўсцешна.

Ірына БОНДАРАВА,
бібліятэкар 11-й школы Магілёва.

## НГ-іНФАРМ

### КОРАТКА

Міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў правёў сустрэчы ў Віцебску з педагагічнай грамадскасцю і кіраўніцтвам горада. Абмяркоўваліся праблемы рэформы адукацыі.

* * *

Другое пасяджэнне беларуска-польскай камісіі па адукацыі нацыянальных меншасцяў адбылося ў Польшчы. Беларускую дэлегацыю ўзначальваў начальнік упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі Мікалай Фяськоў. Па выніках перамоў падпісаны пратакол паміж Міністэрствам адукацыі і навукі Беларусі і Міністэрствам адукацыі Польшчы.

* * *

У Бруселі ў Еўрапейскай камісіі створаны фонд адукацыі. Адным з чатырох выканаўчых дырэктараў фонду выбраны прадстаўнік Беларусі — дырэктар інстытута прафесійнай адукацыі Аркадзь Шкляр.

* * *

Нарада па праблемах рэформы прафесійнай адукацыі ў адпаведнасці з праектам Закона аб прафесійнай адукацыі адбылася ў мінулы панядзелак у Мінску.

### Міністру адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь прафесару Васілю СТРАЖАВУ

Паважаны калега!

Прыміце мае сардэчныя віншаванні з прычыны прызначэння Вас міністрам адукацыі і навукі. Дазвольце пажадаць Вам поспехаў і творчых сіл у выкананні новых для Вас задач, якія ў выніку разнастайнасці працэсаў перабудовы ў Вашай краіне не з'яўляюцца простымі.

На вашай ранейшай пасадзе намесніка міністра Вы ўжо ўнеслі значны ўклад у арганізацыю і развіццё існуючага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі, асабліва ў галіне вышэйшай і прафесійнай адукацыі. Я хацеў бы выказаць сваю ўпэўненасць у тым, што і надалей наша супрацоўніцтва будзе развівацца паспяхова. Дазвольце запэўніць Вас, што Федэральнае міністэрства адукацыі і навукі Германіі будзе падтрымліваць Вашы намаганні і ў будучым.

З сяброўскім прывітаннем прафесар др. Карл-Ханс Лэрман.

### ДЗЕЛАВАЯ ГУЛЬНЯ

Міністэрства адукацыі і навукі, агенцтва гуманітарных тэхналогій, Інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі і інстытут прафесійнай адукацыі правялі 29 кастрычніка дзелавую гульню "Развіццё сістэмы школьнай адукацыі: стан і перспектывы".

Удзельнікі дзелавой гульні — адказныя работнікі Міністэрства адукацыі і навукі, работнікі сістэмы павышэння кваліфікацыі, навукі, кіраўнікі мясцовых органаў і ўстаноў адукацыі, прадстаўнікі педагагічных выданняў — аналізавалі сучасны стан сістэмы школьнай адукацыі, вялі дыскусіі па асноўных адукацыйных праблемах, дзяліліся думкамі аб рамках і арыенцірах канцэпцыі развіцця сістэмы школьнай адукацыі.

У дзелавой гульні бралі ўдзел міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў і першы намеснік міністра Генадзь Пятроўскі.

### У ДУХУ МІРУ, ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА І ДЭМАКРАТЫІ

#### МІНІСТР АДУКАЦЫІ І НАВУКІ ВАСІЛЬ СТРАЖАЎ ПРЫНЯЎ УДЗЕЛ У 44-Й СЕСІІ МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ПА АДУКАЦЫІ

На пачатку кастрычніка ў Жэневе (Швейцарыя) прайшла 44-я сесія Міжнароднай канферэнцыі па адукацыі на тэму "Вынікі і перспектывы адукацыі ў духу міжнароднага ўзаемаразумення", арганізаваная Міжнародным бюро асветы ЮНЕСКО — найбуйнейшым форумам сусветнай адукацыйнай прасторы. У канферэнцыі ўзялі ўдзел дэлегацыі 128 краін-членаў ЮНЕСКО, 9 урадавых, 22 няўрадавыя арганізацыі. Сусветны банк рэканструкцый і развіцця, Арганізацыя эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця. 76 дэлегацый краін-членаў ЮНЕСКО ўзначальвалі міністры адукацыі. Дэлегацыю Рэспублікі Беларусь узначальваў міністр адукацыі і навукі прафесар Васіль Стражаў.

Тэматыка канферэнцыі абумоўлена тым, што на парозе XXI стагоддзя ствараюцца спрыяльныя ўмовы для міру, павагі да правоў чалавека, дэмакратыі і развіцця, але ў гэты ж час сусвет сутыкаецца з сур'ёзнымі праблемамі, што звязаны з ростам насілля, ксенафобіі і нецярпімасці. Зараз відавочна адчуваюцца такія трывожныя сімптомы. 44 сесія МКА паказала, што адукацыя можа і павінна рашучым чынам садзейнічаць стрымліванню гэтых адмоўных тэндэнцый шляхам збалансаванага развіцця інтэлектуальнага і маральнага патэнцыялу моладзі, жанчын і мужчын, арыентуючы іх на выпрацоўку актыўнай жыццёвай пазіцыі і канкрэтных дзеянняў. Такім чынам, міжнародны форум унёс арганічны ўклад у ажыццяўленне мерапрыемстваў, прысвечаных Міжнароднаму году цярпімасці, абвешчаным ААН (1995г.).

Правядзенне канферэнцыі супала з дваццатай гадавінай прыняцця Генеральнай канферэнцыяй ЮНЕСКО Рэкамендацый (1974г.) аб выхаванні духу міжнароднага ўзаемаразумення, супрацоўніцтва і міру, павагі да правоў чалавека.

Канферэнцыя пачалася з нарады Камітэта ўрадавых экспертаў па разгляду пытанняў, што датычаць Рэкамендацыі 1974 г. і праекта Комплексных рамак дзеянняў. Старшынёю Бюро Камітэта ўрадавых экспертаў выбраны намеснік старшыні Камісіі Францыі па справах ЮНЕСКО І.Брунсвік, віцэ-старшынёй ад другой групы краін рэгіёна Усходняй Еўропы член дэлегацыі Рэспублікі Беларусь Дзмітрый Шэметаў.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

Хоць школьныя канікулы і не для настаўнікаў, у Вас цяпер, згадзіцеся, крыху больш вольнага часу. Так што можаце зрабіць сабе ў гэтыя дні падарунак да Новага года — выпісаць "Настаўніцкую газету".

Падпісны кошт на 6 месяцаў — 4.680 рублёў, на тры месяцы — 2.340 рублёў.





Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63867 (індэкс выдання)

«Настаўніцкая газета» Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63867 (індэкс выдання)

«Настаўніцкая газета»

| Кошт | падпіскі | руб. кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. кап. | | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# НГ-іНФАРМ



ЗВАНОК З НАГОДЫ

## ПРЫСВЕЧАНА АЙЧЫНЕ

**Як паведаміла па тэлефоне намеснік дырэктара Жлобінскага ПТВ №143 Надзея Уладзіміраўна Пазнякова, у іх толькі што завяршыўся месячнік беларускай пісьменнасці і друку. У яго рамках адбылося шэраг нетрадыцыйных і захапляльных імпрэз.**

Удзельнікамі падзеі сталі навучэнцы ўсіх курсаў. Падлеткі старанна рыхтавалі рэфераты, малявалі плакаты, вучылі вершы і песні. Усе работы былі прысвечаны роднай Беларусі, яе гісторыі і Адраджэнню. Гасцямі акцыі сталі пісьменнікі, паэты, мастакі, а таксама выпускнікі вучылішча, прадстаўнікі базавых прадпрыемстваў, гарана.
У гэтыя дні папоўніўся новымі экспанатамі этнаграфічны музей вучылішча. Арганізавала і вяла месячнік выкладчык роднай мовы і літаратуры Людміла Уладзіміраўна Мароз.

**Цікавых навін з жыцця прафтэхустаноў чакае загадчык аддзела прафтэхадукацыі Ала КЛЮЙКО па тэл. 36-44-25. Званіце, калі ласка!**

СЕМІНАРЫ

## ПЛЫНЬ БЕСПЕРАПЫННАСЦІ

**"Сістэма бесперапыннай прафесійнай адукацыі як умова рэалізацыі гуманістычных падыходаў да станаўлення асобы" — рэспубліканскі семінар-нарада на такую тэму адбыўся ў Мінску. Яго ўдзельнікамі сталі прадстаўнікі Міністэрства адукацыі і навукі, Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі, упраўлення адукацыі Мінскага гарвыканкама, а таксама дырэктары ўстаноў новага тыпу сталіцы і іншых гарадоў краіны.**

На сучасным этапе развіцця прафесійнай адукацыі Беларусі характэрнай яе рысай стала шматузроўневасць і шматступеньчатасць. Таму праблемам станаўлення бесперапыннай прафесійнай адукацыі, стварэнню ўмоў для яе развіцця, абагульненню набытага вопыту і аналізу сённяшняга становішча прафесійнай адукацыі прысвяцілі свае выступленні А.Шкляр, рэктар РІПА, Э.Каліцкі, прарэктар гэтай жа установы, М.Ільін, намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама.

Установамі новага тыпу ў сістэме бесперапыннай прафесійнай адукацыі з'яўляюцца вышэйшыя прафесійныя і вышэйшыя тэхнічныя вучылішчы, аб рабоце якіх ішла далейшая размова.

Пра новыя падыходы ў арганізацыі выхаваўчага працэсу і яго ролю ў павышэнні якасці прафесійнай падрыхтоўкі навучэнцаў расказаў дырэктар ВПВ чыгуначнага транспарту Г.Сяркуцьеў. Толькі пачало працаваць у новым статусе і ВПВ лёгкай прамысловасці. Яго дырэктар П.Ясюкевіч пацвердзіў неабходнасць двухступеньчатай падрыхтоўкі кадраў у лёгкай прамысловасці, расказаў аб умовах яе забеспячэння ў вучылішчы.

Удзельнікі семінара пазнаёміліся з работай ВПВ сферы абслугоўвання, ВПВ будаўнікоў, ПТВ №13 швейнікаў, дзе наведалі майстэрні і кабінеты, прагледзелі навучальныя планы і праграмы, абмяняліся думкамі аб далейшай рабоце.

Дырэктар ПТВ № 13 Т.Расўская пазнаёміла з асаблівасцямі арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу ў эксперыментальнай групе, якая ўпершыню скамплектавана з выпускнікоў рэальных класаў школ Мінска.

Інтэграцыі працоўнага навучання і прафесійна-тэхнічнай адукацыі была прысвечана размова ўдзельнікаў семінара з калектывам Цэнтра прафесійнай адукацыі Партызанскага раёна сталіцы.

Ала КЛЮЙКО.

# У духу міру, правоў чалавека і дэмакратыі

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.)

Афіцыйнае адкрыццё канферэнцыі адбылося 5 кастрычніка ў Міжнародны дзень настаўніка з выступлення Генеральнага дырэктара ЮНЕСКО Ф.Маёра. Старшынстваваў на канферэнцыі міністр адукацыі, моладзі і спорту Чэшскай Рэспублікі І.Піліп.

Тэматыка пленарных пасяджэнняў была наступнай: "Да культуры свету, правоў чалавека і дэмакратыі праз адукацыю для ўсіх", "Адукацыя для ўзаемаразумення і цярпімасці", "Адукацыя ў XXI стагоддзі". У рамках канферэнцыі праводзіліся "круглыя сталы": "Адукацыя, узаемаразуменне, цярпімасць і роля рэлігій", "Роля сродкаў масавай інфармацыі для міжнароднага ўзаемаразумення", "Выкладанне правоў чалавека ў школе", "Навучанне замежным мовам — фактар міжнароднага ўзаемаразумення", "Праект асацыяваных школ ЮНЕСКО", "Глабалізацыя эканомікі і развіццё адукацыі".

На пленарным пасяджэнні, прысвечаным адукацыі ў XXI стагоддзі, выступіў міністр адукацыі і навукі прафесар Васіль Стражаў. Ён адзначыў, што XXI стагоддзе прынясе змены ў арганізацыю і змест навучальнага працэсу, што любая нацыянальная сістэма адукацыі адлюстроўвае менталітэт нацыі і вельмі важна выдзеліць тыя фундаментальныя складаючыя, якія маюць пераважнае значэнне для рэформы нацыянальнай адукацыйнай сістэмы.

Далей слушна канстатавалася пра неабходнасць выдзялення трох адукацыйных праблем: стварэнне эфектыўнай сістэмы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі настаўнікаў; адшукванне эфектыўных мадэляў пачатковай школы, вызначэнне стандартаў адукацыі. Сумеснае вырашэнне гэтых трох праблем, на думку міністра, з'яўляецца ключавым момантам для ўваходу ў XXI стагоддзе з эфектыўнай сістэмай адукацыі.

Выступленне міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь выклікала вялікую цікавасць удзельнікаў Канферэнцыі і Старшыні камісіі ЮНЕСКО "Адукацыя ў XXI стагоддзі" Ж.Дэлора. Па просьбе Сакратарыята Канферэнцыі выступленне кіраўніка дэлегацыі Рэспублікі Беларусь распаўсюджана сярод удзельнікаў.

На апошнім пленарным пасяджэнні Камітэт урадавых экспертаў падаў праект рэзалюцыі, дэкларацыі 44-й сесіі і праект комплексных дзеянняў па выхаванні ў духу міру, правоў чалавека і дэмакратыі, што былі прыняты канферэнцыяй.

У час праходжання канферэнцыі Генеральны дырэктар ЮНЕСКО Ф. Маёр прыняў міністра адукацыі і навукі Беларусі Васіля Стражава. Абмеркаваны пытанні адукацыйных і навуковых кантактаў з установамі ЮНЕСКО і іх рэалізацыі ў сумесных праектах, правядзення канферэнцыі па рэформах сярэдняй адукацыі для краін у пераходны перыяд. Кіраўнік беларускай дэлегацыі выказаў падзяку Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКО Ф.Маёру за ажыццяўленне праекта "ЮНЕСКО—Чарнобыль".

У Жэневе адбыліся сустрэчы В.Стражава з прэзідэнтам Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці А.Бокшам, з кіраўніцтвам Еўрапейскага універсітэта. Наш міністр наведаў Жэнеўскі універсітэт. Вынікам правядзення перамоў і сустрэч стане далейшае развіццё кантактаў у сферы навукі і адукацыі з Рэспублікай Беларусь.

Віктар ІЎЧАНКАЎ.

# ВЫСТУПЛЕННЕ

## МІНІСТРА АДУКАЦЫІ І НАВУКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРАФЕСАРА ВАСІЛЯ СТРАЖАВА НА 44-Й СЕСІІ МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ПА АДУКАЦЫІ ПА ПРАБЛЕМЕ "АДУКАЦЫЯ ДЛЯ XXI СТАГОДДЗЯ"

Жэнева, 7 кастрычніка 1994 года.

Дамы і паны, калегі!

Усе мы, паасобку і разам, шукаем адказ на пытанне, якая сістэма адукацыі будзе ў найлепшай ступені адлюстроўваць асаблівасці XXI стагоддзя. Вучань у школе ўсё больш нагадвае чалавека ў лодцы ў бушуючым моры, свеце інфармацыі. І ў той жа час відавочна, што рэвалюцыя ў адукацыі магчыма толькі эвалюцыйным шляхам. Відавочна, што XXI стагоддзе прынясе змены ў арганізацыю і змест навучальнага працэсу, у методыку выкладання. Але вельмі важна правільна вызначыць адпраўны пункт руху ў бок гэтых змен і намеціць правільныя арыенціры на гэтым шляху.

Не выклікае таксама сумненняў, што нацыянальная сістэма адукацыі, у яўнай або няяўнай форме, адлюстроўвае менталітэт нацыі. І таму вельмі важна выдзеліць тыя фундаментальныя праблемы, якія маюць вызначальнае значэнне для рэформы любой нацыянальнай адукацыйнай сістэмы.

Мне ўяўляецца неабходным выдзяленне трох такіх адукацыйных праблем. Гэта, папершае, стварэнне эфектыўнай сістэмы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі настаўнікаў.

Сапраўды, аналіз папярэдняга вопыту, назапашанага ў сістэме адукацыі, сведчыць аб тым, што вызначальнае значэнне для працэсу навучання і выхавання вучня мела, мае і будзе мець асоба настаўніка, адпаведнасць яго падрыхтоўкі сучасным патрабаванням, яго здольнасць выхаваць свабодалюбівую і творчую асобу, якая б валодала не толькі пачуццём уласнай годнасці, але і паважала правы іншага чалавека не па прымусу, а па перакананні.

Другая праблема, вырашэнне якой жыццёва важна, гэта пошук эфектыўнай мадэлі пачатковай школы, якая вырашае разам задачу навучання і выхавання ў рамках правільна выбранай арганізацыі навучальнага працэсу, яго формы і зместу.

Пачатковая школа — гэта не толькі вызначальны ген сістэмы адукацыі, гэта і ў многім рашаючая ступень у фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці ў асобы.

І, нарэшце, трэцяя праблема — вызначэнне стандартаў адукацыі.

Яе вырашэнне дае магчымасць кіраваць інфармацыйным патокам, правільна вызначаць змест адукацыі на кожным з этапаў навучання.

Паважаныя калегі,

я добра ўсведамляю, што самі па сабе гэтыя праблемы не новыя, і ў пэўным сэнсе яны вечныя, як вечная наша Прырода, але сутнасць у тым, што выдзяленне менавіта гэтых праблем, менавіта іх абмеркаванне і менавіта іх сумеснае вырашэнне — і хацеў бы выдзеліць апошняе сцвярджэнне — сумеснае вырашэнне гэтых трох праблем і ўяўляюцца мне ключавым момантам для ўваходжання ў XXI стагоддзе з эфектыўнай сістэмай адукацыі.

Усё вышэйсказанае вызначае і канкрэтную прапанову па першачарговай задачы: даследаванне і вырашэнне праблемы падрыхтоўкі настаўнікаў для пачатковай школы пры вызначэнні стандартаў адукацыі для данага этапа навучання.

Зразумела, кожная краіна, прадстаўнікі сістэмы адукацыі якой прысутнічаюць на гэтай канферэнцыі, можа самастойна вырашыць, раней або пазней, і гэтую, і іншыя праблемы. Але ўсе мы добра разумеем, што трэба вырашыць раней, трэба вырашыць якасна і трэба вырашыць аптымальна. А ўсё разам гэта магчыма толькі пры аб'яднанні нашых намаганняў у рамках міжнароднага супрацоўніцтва, у рамках праграмы "Адукацыі для XXI стагоддзя" пад эгідай ЮНЕСКО.

Паважаныя дамы і паны,

мой унук праз два гады пойдзе вучыцца ў пачатковую школу, і мае калегі жартуюць, што, гаворачы аб пачатковай школе, я маю і асабістыя інтарэсы.

Так, гэта так, думаючы аб XXI стагоддзі, я думаю і аб будучым свайго ўнука, але я думаю і аб будучым усіх дзяцей, якія, прыйшоўшы сёння ў школу, і ў XXI стагоддзі будуць заставацца ў яе сценах. А аб тым, што ўзнятая праблема зусім не простая і яе вырашэнне далёка не відавочнае, гаворыць і выступленне на гэтай канферэнцыі міністра адукацыі і культуры Францыі, у якім ён, у прыватнасці, упамянуў аб увядзенні з 7 гадоў навучання ва ўсіх школах замежнай мове. Але ж гэта — вельмі важнае рашэнне, прама звязанае са змяненнем у Францыі стандарту адукацыі, які можа пацягнуць за сабой вынікі, далёка на перспектыву. Вітаючы гэта новаўвядзенне, а ў нас у краіне ёсць вопыт у яго вырашэнні, якое, на мой погляд, можа мець пры правільнай методыцы навучання велізарнае значэнне для выхавання ў маленькіх грамадзянах Францыі, і не толькі ў маленькіх грамадзян Францыі, пачуцця далучанасці і павагі да акаляючага іх велізарнага свету нацый і культур, я звяртаю вашу ўвагу на тое, якая няпростая праблема стандарту адукацыі ўжо ў пачатковай школе і якая яна для сістэмы адукацыі ў цэлым.

Дамы і паны,

мая родная краіна Беларусь, адносна невялікая ўсходне-славянская дзяржава з 10-мільённым насельніцтвам, размешчаная амаль у геаграфічным цэнтры Еўропы, пачала свой шлях у будучыню, які, мы разумеем, будзе нялёгкім і на якім нас чакаюць не толькі поспехі, але і няўдачы. Але я ведаю, я ўпэўнены ў тым, што калі чалавек без адукацыі — гэта чалавек без будучыні, зато дзяржава без эфектыўнай сістэмы адукацыі — гэта нацыя без будучыні. Дык зробім разам усё магчымае для таго, каб у XXI стагоддзі кожны чалавек і кожная нацыя былі ўпэўнены ў сваім будучым.

Дзякуй за ўвагу.

## ГРОДЗЕНСКІ КУР'ЕР

"Скарбы роднай мовы" — пад такой назвай выйшла кніга навукоўца з ГДУ А.Цыхуна. У ёй сабраны матэрыялы па розных гаворках Прынёманскага краю, абагульнены вынікі шматлікіх навуковых экспедыцый.

* * *

У наступным годзе адчыніць свае дзверы для першых наведвальнікаў этнаграфічны музей у Шчучыне. У ім размесцяцца экспазіцыі сялянскага побыту, вуснай народнай творчасці, жывапісу і інш.

* * *

На працягу чатырох гадоў у Гродзенскім вучылішчы мастацтваў займаецца 45 навучэнцаў. Прыйшоў час ім прадэманстраваць усё тое, чаму навучаліся — у Гародні адкрыта персанальная выстава іх работ.

* * *

Сувязісты беларускага войска, што знаходзіцца ў Гародні, правялі дзень адкрытых дзвярэй для вучняў старэйшых класаў школ горада. Вайскоўцы прадэманстравалі ім узоры тэхнікі, расказалі пра сваё жыццё, пазнаёмілі з умовамі быту.

* * *

Больш за 200 юных жыхароў Гродзеншчыны ў гэтым годзе адпачылі ў рэспубліканскім летніку "Зубраня". Частковую кампенсацыю на пакрыццё кошту пуцёвак выдзеліў СМБ, а для некаторых сірот пуцёўкі былі бясплатныя. Да канца года яшчэ адпачне каля 70 школьнікаў.

* * *

За апошнія тры гады з гродзенскіх школ перайшло на іншую працу каля 200 настаўнікаў. А вось атэставаны на вышэйшую і першую катэгорыі кожны трэці педагог.

Юрый АЛЯКСЕЕЎ.

# НГ-іНФАРМ



ФОТАФАКТ

## Пасвячэнне ў гімназісты

Гэты доўгачаканы ўрачысты момант супаў з заканчэннем першай чвэрці. Яшчэ некалькі дзесяткаў маленькіх "савянят" сталі сапраўднымі гімназістамі.

Няпростым быў для іх шлях у гэтую залу, які працягваўся чатыры гады. Не ўсім, на жаль, было наканавана яго адолець. Як гаворыцца, перамагае мацнейшы. Менавіта мацнейшым усміхнуліся дзве савы (веды і мудрасць) — сімвал Мінскай педагагічнай гімназіі.

На першы погляд, усе перашкоды пераадолены. Але апошняе выпрабаванне чакала дзяцей у зале, перад вачамі журы, якому трэба было даказаць сваё права насіць высокае званне гімназіста. Доказы былі добразычліва прыняты, і журы з радасцю абвясціла аб папаўненні гімназічнага брацтва.

Юрый БОНДАРАЎ.



ПАДЗЯЛЮСЯ З ВАМІ

## ЁСЦЬ У НАС СВЯТЫНІ

**У сярэдняй школе № 7 Кобрына Брэсцкай вобласці пачала дзейнічаць зала этнаграфіі і краязнаўства "Спадчына". Сюды прыходзяць дзеці, каб пазнаёміцца з разнастайнымі экспанатамі, паслухаць расказ экскурсавода.**

"Кожны народ мае сваю гісторыю, тэрыторыю, дзе ён жыве, свае нацыянальныя святыні, якімі ён ганарыцца", — так пачынае экскурсію ў зале 11-класніца Ірына Карасцялёва. Ірына расказвае аб продках беларусаў, пра тое, як на працягу многіх стагоддзяў яны адстойвалі сваю тэрыторыю, мову, культуру.

Асобная старонка прысвячаецца першаасветнікам — Францішку Скарыне, Сымону Буднаму і Кірылу Тураўскаму. Затым расказваецца пра Я.Купалу, Я.Коласа, М.Багдановіча, І.Шамякіна, К.Крапіву, К.Чорнага і іншых мастакоў слова.

Асаблівую цікавасць выклікае экспазіцыя "Народнае прыкладное мастацтва". Вось сведчанне майстэрства беларускіх жанчын: цудоўна вытканыя і вышытыя ручнікі, сурвэткі, іншыя рэчы, якія калісьці ўпрыгожвалі хаты. І цяпер іх можна ўбачыць у дамах сялян старэйшага ўзросту. А колькі дзіўных рэчаў маглі рабіць нашы продкі са звычайнай саломы, з дрэва!

Ёсць у зале і прыгожыя, цікавыя рэчы, зробленыя гуртkоўцамі школы і навучэнцамі ПТВ № 105.

Пра трагічныя старонкі ў жыцці беларускага народа, яго гераізме ў гады Вялікай Айчыннай вайны нагадваюць дыярамы Хатыні і Кургана Славы.

Экспазіцыя школьнай залы "Спадчына", дзе сабраны простыя, на першы погляд, рэчы, сёння з'яўляецца цэнтрам нацыянальна-патрыятычнага выхавання.

Надзея КАМАРЧУК,
намеснік дырэктара па
выхаваўчай рабоце.



З ПОШТЫ АДДЗЕЛА ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЫ

## НІЧОГА НЕ ЗДАРЫЛАСЯ?

"Нас, настаўнікаў рускай мовы і літаратуры горада Слоніма, шчыра хвалюе далейшы лёс паважанага намі чалавека — дацэнта кафедры рускай і замежнай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, Мікалая Аляксандравіча Мельнікава, — пішуць у рэдакцыю настаўнікі І.Карповіч (сярэдняя школа № 10), С.Суша (сярэдняя школа № 9), Н.Ракевіч (сярэдняя школа № 5). — Як здарылася, што з ВНУ вымушан быў пайсці адзін з самых лепшых яго выкладчыкаў?! Няўжо універсітэт настолькі багаты на кадры, што не мае патрэбы ў ведах вельмі разумнага, высокакваліфікаванага чалавека?

Нас заўсёды падкуплівае ў ім бескарыслівая служба навуцы, якой ён прысвяціў жыццё. Яго педагагічныя назіранні і даследаванні ўзбагацілі методыку выкладання літаратуры, сталі асновай у працы яго вучняў.

Мы не можам уявіць Гродзенскі універсітэт без Мельнікава. Тым больш, што ён яшчэ поўны творчых сіл, нерэалізаваных задумак!"

"Мікалай Аляксандравіч — чулы і таленавіты педагог, падзвіжнік у галіне выкладання літаратуры, які заўсёды рыхтаваў нестандартнага настаўніка для школы.

І вось нечаканы паварот у лёсе выдатнага педагога і вучонага, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны. 30 жніўня ён зняты з работы дацэнта кафедры, зняты насуперак яго жаданню, без папярэджання, у дзень, калі студэнты і настаўнікі віншавалі яго з новым навучальным годам.

Гэта вялікая страта для навучальна-выхаваўчага працэсу. Спецкурс і спецсемінары па актуальных праблемах вывучэння літаратуры ў сучаснай школе, па педагагічным майстэрстве, якія ён многія гады вёў, студэнцкі навуковы гуртох і педпрактыка — яго сапраўднае захапленне — былі скіраваны на падрыхтоўку настаўнікаў творчага складу, на фарміраванне ў іх нацыянальнай самасвядомасці, гатоўнасці жыць па сумленні.

Цяжка паверыць, што ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны могуць зняць з работы ў ВНУ напярэдадні 50-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй, Перамогі, у якую ён унёс свой уклад.

Мы спадзяёмся, што кандыдат педагагічных навук, дацэнт М.А.Мельнікаў будзе адноўлен на рабоце".

Аўтары працытаванага пісьма ў рэдакцыю — А.Белакоз, настаўнік-метадыст, дырэктар Гудзевіцкага літаратурна-этнаграфічнага музея, заслужаны работнік культуры Беларусі, дэпутат абласнога Савета, М.Данільчык, настаўнік мовы і літаратуры Карэліцкай сярэдняй школы, заслужаны настаўнік Беларусі, Т.Шарлай, завуч сярэдняй школы №3 Слоніма, А.Цыпун, заслужаны настаўнік Беларусі, Ю.Пікаловіч, настаўнік рускай мовы і літаратуры, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце сярэдняй школы №6 Гродна, Н.Сіманава (Грышкевіч), псіхолаг сярэдняй школы №10 Гродна, Г.Дземчанка, настаўнік беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы №25 Гродна, паэтэса, Л.Брыцько, настаўніца рускай мовы і літаратуры, аспірантка.

"Яшчэ ў ліпені я пасылала ў Міністэрства адукацыі ліст, у якім пісала, што ў Гродзенскім дзяржуніверсітэце дацэнту Мельнікаву Мікалаю Аляксандравічу ўсяляк перашкаджаюць у адкрыцці завочнай аспірантуры па методыцы выкладання літаратуры, хаця некалькі чалавек, у тым ліку і я, рыхтаваліся да паступлення ў яе. Тым часам ні ў аддзеле па рабоце з аспірантамі, ні ў дэканаце філалагічнага факультэта, ні прарэктар па навуковай рабоце яснага адказу на пытанне, чаму не аб'яўлен набор у аспірантуру, нам не далі, — паведамляе настаўніца рускай мовы і літаратуры школы №1 Скідэля Наталля Чаркес.

Толькі ў якасці рэагавання на ліст з міністэрства першы прарэктар А.К.Краўцэвіч у пісьмовым адказе паведаміў аб "немэтазгоднасці развіцця аспірантуры педагагічнага профілю ў класічным універсітэце і немагчымасці працаўладкавання выпускнікоў".

Хочацца запярэчыць А.К.Краўцэвічу, што іменна мэтазгоднасць і дыктуе развіццё аспірантуры педагагічнага профілю ва універсітэце, бо, як ніколі раней, Беларусі патрэбны таленавітыя педагогі, настаўнікі. Між іншым, ва універсітэце створана група па падрыхтоўцы настаўнікаў грэчаскай і лацінскай моў. Сумняваюся, што пытанне з іх працаўладкаваннем будзе вырашана лягчэй, чым выпускнікоў завочнай аспірантуры па методыцы выкладання, патрэба ў якіх значна большая. Аднак набор у групы руска-беларускіх моў і літаратур спынены наогул.

Ці не таму і дацэнта М.А.Мельнікава звольнілі з універсітэта, што ён стаяў за беларусізацыю, за сувязь з практыкай, са школай? Можа ў гэтым адміністрацыя і бачыць немэтазгоднасць?".

Такая вось рэакцыя чытачоў на звальненне з універсітэта выкладчыка.

На працягу некалькіх год М.А.Мельнікаў з'яўляўся сябрам Вучонага савета Інстытута літаратуры АН БССР, дзесяць гадоў быў сябрам Вучонай рады НДІ Акадэміі педагагічных навук РСФСР (Ленінград). Распрацаваў для Расійскай федэрацыі праграму стажорскай практыкі настаўнікаў-славеснікаў, выпускнікоў педінстытутаў і універсітэтаў. У яго творчай скарбонцы каля 70 апублікаваных навуковых работ. А нядаўна выйшла з друку яго кніга "Литературные вечера в школе". Мікалай Аляксандравіч праводзіць актыўную грамадскую работу, узначальвае ветэранскую арганізацыю.

Рэдакцыя звязалася па тэлефоне з Мікалаем Аляксандравічам. Ён тлумачыць сваё звальненне тым, што кіраўніцтва універсітэта спрабуе стварыць каманду не па прафесіянальных якасцях, а па асабістай адданасці.

Ніколі б не падумаў, гаворыць ён, што вось так, у адзін момант, дзеля таго, каб зменшыць навуковую вагу Мельнікава, кіраўніцтва пойдзе на скасаванне аспірантуры, спыніць цэлую сістэму работы, якой я прысвяціў жыццё.

Іншае тлумачэнне сітуацыі дае рэктар універсітэта ЛеанідКівач, з якім мы таксама мелі тэлефонную размову, а затым азнаёміліся з яго лістом у Міністэрства адукацыі.

"У сувязі з тым, што Мельнікаў М.А. не быў выбраны па конкурсу на пасаду загадчыка кафедры рускай і замежнай літаратуры, — паведамляе міністэрству Л.М.Ківач, — па асабістай заяве ён быў прызначаны на гэту пасаду па тэрміновым працоўным дагаворы з 31.10.92 г. Пасля Мельнікаў Мікалай Аляксандравіч па асабістай заяве 2.09.93 г. быў прыняты на пасаду дацэнта гэтай кафедры па тэрміновым працоўным дагаворы па 30.06.94 г., які быў працягнуты да 30 жніўня гэтага года.

30 жніўня 1994 года Мельнікаў М.А. быў звольнены з пасады дацэнта кафедры рускай і замежнай літаратуры ў сувязі з заканчэннем тэрміновага працоўнага дагавору, а пасля прадстаўлення ім лістка непрацаздольнасці загад быў зменены, і ён быў звольнены 14.09.1994 года.

У першых днях верасня гэтага года па маім даручэнні Мельнікаву М.А, першым прарэктарам універсітэта Краўцэвічам А.К. зроблена прапанова працаўладкавання на ўмовах пагадзіннай аплаты або па працоўным пагадненні. Гэтыя прапановы былі зроблены ў тэлефоннай размове з Мельнікавым М.А. першым прарэктарам Краўцэвічам А.К. і старшым інспектарам аддзела кадраў універсітэта Цеплашэвіч Л.Э.

17 кастрычніка 1994 года па маёй ініцыятыве ў рэктараце адбылася сустрэча з Мельнікавым М.А., на якой я асабіста прапанаваў яму яшчэ раз працу ва універсітэце на ўмовах пагадзіннай аплаты або па працоўным пагадненні з памерам вучэбнай нагрузкі да 441 гадзіны. Ад прапаноў Мельнікаў М.А. поўнасцю адмовіўся".

Такім чынам, мы азнаёміліся з тлумачэннямі абодвух канфліктуючых бакоў. Здавалася б, цяжба скончана. Аднак апошнюю кропку ў гэтай гісторыі паставіць народны суд Ленінскага раёна Гродна, куды Мельнікаў М.А. падаў іскавую заяву.

Матэрыял падрыхтаваў
да друку
Пётр ЮДО.

